# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 17 (1052) ГОД XXI 25 КРАСАВІКА 1976 г. ЦАНА 60 гр.

VIII З'ЕЗД БГКТ

БАНК ДУМАК




### ПАД РОДНЫМ НЕБАМ

*Нашто захапляцца*
*крыштальным палацам,*
*што вабіць за дальняй гарой?*
*Як роднаму сыну*
*мне сніцца хаціна*
*з буслянкай на ліпе старой.*

*Яшчэ мне — дзіцяці —*
*расказвала маці*
*забытую ўжо даўніну,*
*як прадзед далёкі*
*на ліпу высока*
*старую ўзвалок барану.*

*Каб ранняй парою,*
*здалёку вясною*
*буслы прылятаді сюды.*
*Гняздо дагдядалі,*
*дзяцей гадавалі,*
*не ведалі гора, бяды.*

*У іх было свята,*
*калі бусляняты*
*няўрымсцяцца ў родным*
*гняздзе.*
*І з самага ранку*
*руплівая мамка*
*вучыцца лятаць павядзе.*

*І ўжо на балоце,*
*паважна ў ляноце*
*да вечара можна гуляць.*
*Там харч здабывалі,*
*крыло спрабавалі,*
*каб потым высока лятаць.*

*Але за бусліхай*
*падкраўся паціху*
*у зараслях здрадніцкі крок,*
*над ціхім балотам,*
*высокім чаротам*
*стрэл грымнуў смяротны*
*здалёк.*
*Упала бусліха.*
*Вакол стала ціха, —*
*пярэпалах быў не малы.*
*Над ціхай пратокай,*
*высока, высока*
*трывожна кружылі буслы.*

*Жыццё не здаецца.*
*З параненым сэрцам,*
*за крыкам сівых жураўлёў, —*
*у вырай-дарогу,*
*забыўшы трывогі,*
*паплыў клін і нашых буслоў.*

*Туды, дзе заўсёды*
*няма непагоды,*
*дзе цёпла бывае зімой.*
*Дзе вецер і сцюжа*
*ніколі не кружаць*
*і сонца блішчыць над зямлёй.*

*Але і за морам*
*ім сняцца прасторы*
*радзімы і крэўных сяброў.*
*І раніцай бусел*
*з дарогі вярнуўся*
*ў старую буслянку — дамоў.*

*Адолеў трывогі*
*бясконцай дарогі,*
*так сэрцу быў любы свой край...*
*Дадому вярнуўся*
*пакрыўджаны бусел,*
*хоць ведаў — буслянку шукай.*

**Мікола Хведаровіч**



**Гэтыя крашанкі зрабілі члены гуртка Украінскага грамадска-культурнага таварыства ў Гажове Вялікапольскім. А прыслаў іх нам Міхась Пэпух. Сардэчна дзякуем! А ўсім нашым чытачам шлем найлепшыя велікодныя пажаданні!**

# БЕЛАРУСЫ НА ЗАХОДНІМ ПАМОР'І

Вельмі часта на чыгуначных і аўтобусных вакзалах Шчэцінскага ваяводства можна пачуць беларускую гутарку. Часцей за ўсё з вуснаў сялян, прыязджаючых у горад па справункі, або „сяляна-рабочых“, вяртаючыхся з гарадскіх прадпрыемстваў дамоў у вёску, дзе пасля васьмігадзіннага рабочага дня на фабрыцы чакае яшчэ непачаты край працы на гаспадарцы.

Размаўляюць рознымі дыялектамі: пінскімі, ваўкавыскімі, беластоцкімі.

Сусветныя катастрофы, „вандраванне народаў“ параскідалі беларусаў па ўсім свеце. І нічога дзіўнага, што на Заходнім Паморʼі Польшчы можна сустрэць іх таксама. Не заўсёды здаюць яны сабе справу з свайго беларускага паходжання, хаця па той зямлі, дзе нарадзіліся, сумуюць і, бадай, да канца жыцця не здолеюць прывыкнуць да новага месцажыхарства, асабліва старэйшае пакаленне.

У сваім штодзённым жыцці шчэцінскія беларусы карыстаюцца польскай, часам „польска-ашмянскай“ мовай. Аднак дома часта гавораць па-беларуску, асабліва, калі... спрачаюцца. Сварка пачынаецца словамі „Каб цябе...“, а далей можна прыдумаць згодна з сітуацыяй. „Ой, хацела мяне маці ды за першага аддаці“ часта можна пачуць з вуліцы ў мястэчках і вёсках ваяводства з нагоды сямейных урачыстасцей.

Шмат беларусаў жыве і працуе ў гарадах. Вучацца ў вышэйшых навучальных установах, працуюць на сучасных прадпрыемствах, часта займаюць кіруючыя пасады.

Пётр Жабскі працуе ў міліцыі. Скончыў вучылішча ў Шчытне, атрымаў афіцэрскае званне. Цяпер хоча паступіць на юрыдычны факультэт Пазнанскага універсітэта, на завочнае аддзяленне. Стараецца не адстаць ад жонкі, студэнткі-завочніцы Шчэцінскага педагагічнага інстытута, якая вывучае там гісторыю, а працуе настаўніцай у васьмігадовай школе.

Калі наша размова перайшла на беларускія справы, Пятрусь вельмі здзівіўся, што ў Польшчы выдаецца беларуская газета. Цяпер заўсёды купляе „Ніву“ ў кіёску на чыгуначным вакзале „Шчэцін-галоўны“.

Брат Петруся Анатоль працуе на гаспадарцы, недалёка ад Шчэціна. Вельмі любіць коней. У яго іх аж два, але не хоча іх мучыць, таму зямлю апрацоўвае трактарам і іншымі сельскагаспадар-

(Працяг на стар. 4)

Міхалова — гэта пасёлак з традыцыямі суконнай прамысловасці. Ёсць тут ліцэй, прафесіянальная сельскагаспадарчая школа, тэкстыльная фабрыка імя дыр. Сяржана, швейнае прадпрыемства, ГС, СКР.

кавярня, святліца, бібліятэка, чытальня, кіно „Чайка“ на 170 асоб. Малады кіраўнік дома культуры супольна з інструктарамі арганізавалі музычны, тэатральны і дзіцячы танцавальны калектывы, фатаграфічны гурток і гурток жывапісцаў.

Асаблівай актыўнасцю выдзяляліся члены музыч-

## ЗНОЎ АЖЫЎЛЕННЕ Ў ГОК

Кожны, хто будзе ў цэнтры гэтага мястэчка, убачыць жалезныя фігуры: сейбіта, або штось, што напамінае касмічную ракету і г.д. Гэта памяткі па Рышардзе Варабею, былым кіраўніку гміннага цэнтра культуры (ГОК). Калі ён выехаў, стала ціха ў гэтым двухпавярховым мураваным будынку.

Але па чарзе.

Спачатку міхалоўскі дом культуры доўга быў у рамонце. Пяць гадоў. Адкрылі яго ў канцы мая 1971 года. Памясцілася ў ім: клуб-

нага калектыву. Яны нават складалі ўласныя музычныя творы, выкарыстоўваючы багаты мясцовы фальклор. Так стваралі гумарыстычныя маналогі, скетчы, а нават прыпеўкі, якія адлюстроўвалі звычаі тутэйшых жыхароў, іх штодзённыя гаспадарчыя клопаты. З імі выступалі на ўласнай сцэне і на фэстынах.

Тэатральны калектыў ставіў дзве-тры п'есы ў год Між іншым, „Выважыла“ Ю. Геніуша і „Трыбунал“ А. Макаёнка, якія кары-

(Працяг на стар. 4)




**Тарашкевіч — нязнаны ● Немагчымае зрабіць магчымым ● Перадз'ездаўскі пленум ГП ● Змітрок Бядуля ● Літаратурная старонка ● Міхальчукі ● Нашы саюзнікі — найлепшыя пісьманосцы ● У гміне Орля ● Антон Саковіч і Ян Палоцкі ● Бібліятэка з традыцыямі ● Весткі з Гайнаўкі, Дубіч, Саколкі, Нараўкі, Адрынак ● Калі сняцца зялёныя лугі ● Песня „Żyj — aby kochać”.**

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-76




*Мужчынскі калектыў з Дубяжына. Ён заняў першае месца сярод вакальных груп у катэгорыі фальклорнай песні.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*

# ХРОНІКА

■ У Адрыцках (гміна Нарва) гурток БГКТ складаецца з моладзі, якая на справаздачна-выбарным сходзе выбрала новае праўленне ў складзе: Віталіс Анхімюк — старшыня і дэлегат з'езду БГКТ, Ёзік Анхімюк — сакратар, Іван Кулеша — скарбнік, Іван Асташэўскі і Аліна Асташэўская — члены праўлення.

■ У Вялікіх Тыневічах (гміна Нарва) новае праўленне гуртка складаецца з асоб: Сяргей Мартынюк — старшыня, Ніна Леўчук — сакратар, Іван Асташэўскі — скарбнік, Зінаіда Свентахоўская і Анна Галавачук — члены.

■ Члены БГКТ у Барысаўцы (гміна Нарва) на справаздачна-выбарным сходзе кіраваць гуртком даверылі наступным асобам: Івану Якімюку — старшыня, Ніне Ясвіловіч — сакратар, Галене Ціханюк — скарбнік і Андрэю Гарашэўскаму — член. На з'езд БГКТ паедзе Ніна Ясвіловіч.

■ БГКТ-оўцы ў Новай Волі (гміна Міхалова) у склад новага праўлення выбралі: Аляксандра Філіпчука — старшынёю і дэлегатам з'езду БГКТ, Ірэну Івановіч — сакратаром, Уладзіміра Каліноўскага — скарбнікам і Юрку Васько — членам праўлення.

■ У Трывежы (гміна Гайнаўка) у склад праўлення ўвайшлі: Іван Кіцэль — старшыня, Сцяпан Пракапюк — сакратар, Яўген Сахарчук — скарбнік, Міраслаў Давідзюк і Лявон Сахарчук — члены. Дэлегатам на з'езд выбраны Васіль Пракапюк.

■ У Янове (гміна Нарва) склад праўлення прадстаўляецца наступна: Іван Назарук — старшыня гуртка і дэлегат на VIII з'езд БГКТ, Мікалай Леўчук — сакратар, Мікалай Аксенюк — скарбнік, Васіль Пучко і Сцяпан Леўчук — члены.

■ Крывяціцкі гурток БГКТ (гміна Орля) на справаздачна-выбарным сходзе сканцэнтраваў галоўную ўвагу на клубнай дзейнасці з той мэтай, каб у далейшым была яна больш эфектыўная. У праўленне гуртка выбраны: Анатоль Канопка — старшыня, (ён таксама дэлегат на з'езд БГКТ), Іван Кавальчук — сакратар, Тамара Клін — скарбнік і Янка Жураўль — член.

■ Гурток БГКТ у Кошках (гміна Орля) выбраў новае праўленне ў складзе: Аліцыя Фёнік — старшыня, Валянціна Мацкевіч — сакратар, Яўгенія Вярэмчук — скарбнік.

■ У склад новавыбранага праўлення гуртка БГКТ у Храбалах увайшлі: Раіса Дамброўская — старшыня, Славамір Хількевіч — сакратар, Аліна Дамброўская — скарбнік.

■ У Казлах (гміна Бельск) члены гуртка БГКТ выбралі старшынёй — Яланту Гаўрылюк, сакратаром — Яўгенію Аверчук, скарбнікам — Міраславу Данілюк.

■ Пасля справаздачнага даклада і зацвярджэння плана працы да канца бягучага года, члены гуртка БГКТ у Локніцы (гміна Бельск) выбралі новае праўленне: Зінаіда Кучынская — старшыня, Марыя Астапчук — сакратар, Уладзімір Дудзіч — скарбнік, Ніна Сахарчук і Юрка Пракапюк — члены.

■ У Кожыне (гміна Бельск) БГКТ-оўцы, абмеркаваўшы статутовую працу свайго гуртка, прыступілі да выбараў: Андрэй Якімюк — старшыня, Надзея Касцючук — сакратар, Надзея Ваўрэнюк — скарбнік і члены праўлення: Ніна Саковіч (д. Ул.), Ніна Саковіч (д. М.), Марыя Гадомская, Яўген Карчэўскі, Ніна Лук'янюк і Галіна Ваўрэнюк.

■ Гурток БГКТ у Сацах (гміна Нарва) пасля абмяркоўкі працы гуртка і плана працы на бягучы год прыступіў да выбараў новага праўлення. І так, Марыся Буслоўская — старшыня, Канстанцін Марчук — сакратар, Марыя Сегень — скарбнік, Мікалай Кандрацюк і Міхал Максімюк — члены.

## НА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

# РЭВАЛЮЦЫЙНЫ РУХ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Беласточчына ў XIX і пачатку XX стагоддзях была арэнай многіх рэвалюцыйных падзей, і гэта знайшло адлюстраванне ў БелСЭ.

У 1825 г. Міхаіл Рукевіч (т. IX, с. 172-3), які жыў у вёсцы Завыкі, заснаваў тайнае рэвалюцыйнае таварыства „Ваенныя сябры" (т. II, с. 554). У яго ўвайшлі афіцэры і салдаты часцей рускіх войск, што знаходзіліся на Беласточчыне, а таксама некаторыя жыхары Беластока. Таварыства ставіла сваёй мэтай барацьбу за вольнасць і ўсеагульны дабрабыт. На вестку аб паўстанні дзекабрыстаў у Пецярбургу яго члены выступілі супраць прысягі цару Мікалаю I і выклікалі хваляванні ў войску. Калі гэты рух быў задушаны, М. Рукевіча арыштавалі і прыгаварылі да пакарання смерцю. Потым прысуд быў заменены 10-гадовай катаргай, у часе прабывання на ёй і памёр М. Рукевіч у 1841 г.

З наступным рэвалюцыйным парывам, студзеньскім паўстаннем 1863 г. (т. VIII, с. 350-1), звязана цэлая кагорта нашых землякоў і перш за ўсё братоў Кастуся і Віктара Каліноўскіх (т. V, с. 265-6), што былі родам з маёнтку Мастаўляны. Іх дзейнасць, асабліва Кастуся Каліноўскага — рэдактара „Мужыцкай праўды", арганізатара і кіраўніка паўстання на Беларусі і Літве — шырока вядома на Беласточчыне. Меней вядома постаць польскага публіцыста, пісьменніка і крытыка Юзафа Такаржэвіча (т. 10, с. 205-6), які быў родам з Бельска (нарадзіўся ў 1841 г., памёр у 1919 г.). Пасля заканчэння Беластоцкай гімназіі паступіў у Маскоўскі універсітэт, але за ўдзел у студэнцкай дэманстрацыі быў арыштаваны і выдалены ў Бельск. У часе паўстання 1863 г. арганізаваў і кіраваў атрадам бельскіх мяшчан. „Пасля разгрому паўстання эміграваў, вучыўся ў Парыжскім універсітэце. Заснаваў „Міжнароднае таварыства польскіх студэнтаў". Рэдагаваў двухтыднёвік „Przyszłość", выдаваў рэвалюцыйна-дэмакратычнае выданне „Gmina". Перапісваўся з Герцэнам, прапагандаваў яго тэорыю абшчыннага сацыялізму. Выступаў за супрацоўніцтва з рускімі рэвалюцыянерамі. Быў пад уплывам рускіх славянафілаў. З В. Урублеўскім і Я. Дамброўскім радыкалізаваў кансерватыўны часопіс польскай эміграцыі „Niepodległość". У 1870 г. у Парыжы выдаваў з В. Расалоўскім і Я. Медэкшам польска-літоўска-беларускі рэвалюцыйны часопіс „Грамадскі зговар". З 1882 г. на радзіме. У 1883-93 г.г. у часопісе „Kraj" (Пецярбург). У 1902-4 жыў на Слонімшчыне ў маёнтку М. Федароўскага, вёў з ім фальклорна-этнаграфічныя даследаванні. Эвалюцыяніраваў ад дэмакратычных матэрыялістычных поглядаў да пазітывізму. Аўтар аповесці „Пан сляпы Павал" (1881 г.) і „Пан глухі Гавал" (1891 г.), успамінаў „У дні вайны і голаду" (1900 г.)".

На Беласточчыне разгортвалі дзейнасць па падрыхтоўцы і правядзенню паўстання 1863 г. Валеры Урублеўскі (т. X, с. 487-8) — інспектар лясной школы ў Саколцы, памочнік К. Каліноўскага ў выданні „Мужыцкай праўды", камандзір паўстанцкіх атрадаў і генерал Парыжскай камуны; Ігнат Арамовіч (т. 1, с. 408) — настаўнік Беластоцкай гімназіі, а ў часе паўстання быў ад'ютантам пры паўстанцкім ваенным начальніку Гродзенскага ваяводства. „У Швейцарыі надрукаваў успаміны пра паўстанне на Гродзеншчыне, у якіх апісаў прыезд да паўстанцаў К. Каліноўскага, змясціў тэксты беларускіх паўстанцкіх песень"; Адольф Белакоз (т. II, с. 209) — служачы і музыкант з Беластока, які „актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання, надрукаваў (з Б. Шварцэ) у беластоцкай падпольнай друкарні некалькі рэвалюцыйных выданняў, у т. л. „Гутарку старога дзеда", быў паўстанцкім начальнікам Беластока; Браніслаў Шварцэ (т. XI, с. 314) — інжынер, будаўнік чыгункі Пецярбург-Варшава, кіраўнік Беластоцкай рэвалюцыйнай арганізацыі; Ян Ванькові̇ч (т. II, с. 592) — ляснічы ў Белавежскай пушчы, змагаўся ў паўстанцкіх атрадах на Падляссі, потым „у маі 1863 г. узначаліў Брэсцкі паўстанцкі атрад і з Кобрынскім атрадам Р. Траўгута зрабіў рэйд на Піншчыну", а таксама іншыя.

На Беласточчыне разгортваў сваю дзейнасць у 1887-1894 г.г. Гродзенскі рэвалюцыйны гурток (т. IV, с. 23), а таксама ў пазнейшы час — Гродзенская акруговая арганізацыя РСДРП (т. 1, с. 197). Нельга не прыгадаць пры гэтым спецыяльнага артыкула „Беластоцкія стачкі 1895, 1905 г.г." (т. II, с. 273), у якіх чытаем: „1) стачка 1895 г. — адна з найбольшых масавых у 90-я гады 19 ст. Пачалася на тэкстыльных прадпрыемствах у адказ на ўвядзенне разліковых кніжак, у якіх пералічваліся абавязкі рабочых без уліку іх праваў. У ліпені-жніўні стыхійныя хваляванні і забастоўкі прайшлі на ўсіх прадпрыемствах Беластока. 14 жніўня, у дзень увядзення разліковых кніжак, баставала больш за 10 тыс. рабочых. Яны патрабавалі павялічыць заработную плату і палепшыць умовы працы. Голад прымусіў рабочых 9 верасня спыніць забастоўку, хоць іх патрабаванняў не задаволілі. Многія яе ўдзельнікі арыштаваны. Стачка садзейнічала ўздыму рэвалюцыйнага руху ў Расіі. 2) Стачка 1905 г. (12-14 кастрычніка) — палітычная стачка ў час Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачкі 1905 г. Пачалася на чыгуначным вузле і неўзабаве перакінулася на іншыя прадпрыемствы горада і павету. Суправаджалася мітынгамі, дэманстрацыямі, сутычкамі з паліцыяй і войскамі. У час стачкі быў выбраны Савет рабочых дэпутатаў, але кіраўніцтва ў ім захапілі эсэры і анархісты, таму яна не перарасла ва ўзброенае паўстанне".

**І. Снарскі**

## Наша галерэя

І. І. Шышкін, „Палескі пейзаж" (Дзяржаўны музей БССР).

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 24.IV.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. 6.30 Mat. 7.35 Hasła nie trzeba — film fab. radz. cz. I. 9.00 Dla szkół (kl. VII) Nauka o czł. Sprawy 15-latków. 10.00 (kl. II) Czerw., żółte, ziel. 11.05 (kl. VIII) Geogr. Ze wsi do miasta. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Bot. 15.30 Red. Szk. zap. 15.40 Pr. I prop. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Dzien. 16.10 Obiektyw. 16.30 Leningradzkie wieczory. 16.50 Za kierownicą. 17.10 Sobota Mł. 18.10 Pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 P. nożna: Francja—Polska. 22.15 Dzien. 22.35 TV Teatr Muz. G. Feydeau — Dama od „Maxima". 23.50 Hokej.

- — -

**Niedziela 25.IV.** 6.15 Tech. Rol. Fiz. 6.45 Bot. 7.15 Kurs Rol. 7.50 Przyp., radz. 8.00 Alarm przeciwpoż. trwa. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 Podziemny świat. 11.25 Radar. 11.40 Przegl. polon. 12.10 Dzien. 12.30 Rysie i żbiki. 13.00 Pr. muz. 14.00 Dla dzieci. 14.55 Los. Duż. Lot. 15.10 BANK 440. 16.25 Hokej. 18.45 Canzonissima — film rozr. wł. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Psi węch — film ser. fr. 21.25 Zespół Cygański ROMA. 22.05 BANK 440. 22.40 Sport.

- — -

**Poniedziałek 26.IV.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.00 Czwarty tata — nowela film. radz. 18.40 Kółko i krzyżyk — teletur. 19.00 Szare na złote. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Teatr TV: M. Gorki — Mieszczanie. 22.30 Świadkowie. 23.00 Dzien.

- — -

**Wtorek 27.IV.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 8.00 Brygady Tygrysa — film ser. fr. 9.00 Dla szkół (kl. I) Mat. 10.00 (kl. II lic.) J. pol. A. Czechow — Czajka. 12.55 (kl. lic.) Rodzina współcz. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Chem. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Przed ekranem. 17.30 Gospodarność i ja. 17.45 Wielka woda. 18.15 Studio Mł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Górnicy — film ser. ang. 21.10 Interstud. 21.55 Jak za dawnych lat. 22.10 Dzien. 22.25 Lekt. Pegaza. 22.45 Wieczorne serenady.

- — -

**Środa 28.IV.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Chem. 9.00 Dla szkół (kl. VII) Chem. Ważny kwas. 9.30 Górnicy — film ser. ang. 11.05 Dla szkół (kl VIII) Fiz. 12.00 (kl. VIII) Chem. Cement. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Kurs Przyg. Fiz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.45 Wiązanie kolorów. 18.00 Pr. estrad. 18.15 Kto ma rację. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Finał Pucharu UEFA. 21.45 Stud. Muz. Rozr. 22.00 Listy i polit. 22.45 Dzien.

- — -

**Czwartek 29.IV.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 9.00 Mściciele — film fab. radz. 12.00 Dla szkół (kl. VIII) J. pol. J. Tuwim. 12.30 Decyzje piętnastolatków. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Hod. zwierz. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z brat. 18.05 Poligon. 18.30 Anatomia sukcesu. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Teatr Kobra: F. N. Hart — Wszyscy mówią prawdę cz. II. 21.25 Pegaz. 22.10 Dzien. 22.25 Podróże z HAGAWEM.

- — -

**Piątek 30.IV.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół (kl. III) W odwiedzinach u żubra. 9.15 Ich dwoje i chłopiec — film fab. bułg. 11.05 Dla szkół (kl. I—III lic.) Wych. tech. 12.00 (kl. VIII) Wych. ob. 12.45 Tech. Rol. Mat. 14.40 Kurs. przyg. Mat. 15.50 NURT. 16.00 Red. Szk. zap. 16.10 Pr. I prop. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Zrób to sam. 18.00 Przez maskę płetwonurka — film ser. fr. 18.25 Sport. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Chłodnym okiem — film fab. USA. 22.15 Drogowskazy. 23.00 Dzien. 23.15 Halina Kunicka zaprasza.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 23 kwietnia** — 8.00 Film dok. o A. Twardowskim. 14.00 Film fab. 16.15 Film anim. 17.00 Hokej. 19.45 Koncert. 20.30 Hokej.

**Sobota 24 kwietnia** — 8.30 Koncert. 10.10 Koncert. 13.10 Film fab. 14.50 Filmy anim. 17.30 Film sens. 19.30 Śpiewa K. Szulżenko.

**Niedziela 25 kwietnia** — 9.00 Koncert dla dzieci. 13.00 Hokej. 16.15 ZSRR w oczach obcokrajowców. 16.30 Hokej.

# КІНО

**Białowieża** Dzień szakala — ang. 27—28. To jeszcze nie miłość — NRD 29—30.

**Czyże** Fraulein doktor — jug. Jezioro starej sowy — NRD 28.IV—2.V.

**Dubicze Cerkiewne** Aresztuję cię przyjacielu — fr. Zielona ściana — per. 28.IV—2.V.

**Kleszczele** Wniebowstąpienie — pol. 27—28. Legenda o Paulu i Pauli — NRD 29—30.

**Michałowo** Aresztuję cię przyjacielu — fr. 27—28. Ciemna rzeka — pol. 29—30.

**Mielnik** Tajemniczy blondyn w czarnym bucie — fr. 28.

**Milejczyce** Dramat zazdrości — wł. 27—29.

**Narew** Kartka z młodzieńczych lat — radz. 28.IV—2.V.

**Narewka** Urodziny Matyldy — pol. El Dorado — USA 28.IV—2.V.

**Nurzec** Pokój przechodni — NRD 27—28. Kalendarz warszawski — pol. 29—30.

**Orla** Dzieje grzechu — pol. Michaś przywołuje świat do porządku — RFN 28.IV—2.V.

**Rajsk** Kochankowie roku pierwszego — czes. Śmiałość — radz. 28.IV—2.V.

B.Z.Graf. Zam. 1044 F-2

# Фёдар Хлябіч

## Наша вёска

*У Рыбаках я нарадзіўся,*
*У прыходзе Юшкаў Груд,*
*З вёскаю сваею зжыўся,*
*І цяпер жыву я тут.*

*Калі меў чатыры рокі,*
*Ашчэ нават не спаўна,*
*Выязджаў я ў свет далёкі,*
*Бо была тады вайна.*

*І такой, як наша вёска,*
*Я не бачыў больш нідзе.*
*Лесам хадзіў я падросткам,*
*Плываў у Нарве па вадзе.*

*Наша вёска амаль у доле*
*Пад нестромкаю гарой.*
*На гарэ прысела школа,*
*Крыху быў і я у ёй.*

*На гарэ ест камяніца,*
*Там гуляе, хто малы.*
*Выплываюць дзве крыніцы*
*З-пад пясчанае гары.*

*У нашай вёсцы дваццаць хатаў,*
*А на поўнач расце лес,*
*Гуліца ў нас крывавата,*
*Чыста так, як буква „С“.*

*За ракой Лука наўпроста,*
*Крыху нават на сукос,*
*А за грэбляй і за мостам*
*Урочыска Перавоз.*

*Назад лет дзесяткаў пара*
*Каля грэблі быў тапoль,*
*А пад ім карчма стаяла*
*І быў Носкаў манаполь.*

*Стары двор стаіт высоко*
*Густымі ліпамі зарос.*
*На усход, чуць бачыць вока,*
*Праз раку жалезны мост.*

*Мост жалезны ашчэ новы,*
*Паязды па ім ідут.*
*Груд сасновы там й кляновы*
*І харошы Дубоў груд.*

*І Цясноўскія бярозкі*
*Выглядают з-за гары,*
*Рыбакам суседні вёскі —*
*Гарбары і Бандары.*

*За ракою ад палудня,*
*У том баку найзяляней,*
*Вёска Боўтрыкі і Рудня,*
*Гэта ўжо аднак далей.*

*Як жыта усе паспеют,*
*Як іх скосят касары,*
*То з далёка завіднеют*
*Будніцкія хутары.*

*Над вадой чарот зялёны,*
*Сходятся тут рэчкі.*
*На выгане ходят коні,*
*Пасуцца авечкі.*

*У Рыбаках з аднаго боку*
*Альшына стаіт, як тын.*
*Пад альшынаю штороку*
*Адбываецца хвэстын.*

*Від на захад у нас кароткі*
*Нават летняю парой.*
*Тут расселася Слабодка*
*Пад Мацейкавай гарой.*

*І таксама недалёка*
*Пры дарозе Багнюкі.*
*Хаты ўсе з аднаго боку,*
*Усе з таго, што ад ракі.*

*Руднік цячэ у Нарву вольна,*
*Дзе на ём ляжыт масток.*
*Горна Таніца і Дольна*
*Ад нас таксама у той бок.*

*Ува ўсе бакі абраз мілы,*
*Дзе радзіўся чалавек.*
*У нас пад лесам крыж пахілы*
*Дажывае сівы век.*

## Да вайны

Да вайны людзі у вёсцы,
А таксама абы-дзе,
Жылі ў пастаяннай тросцы,
Часам нават і ў бядзе.

Хоць патрэбу мелі вельку,
Трудно было грош здабыць.
Шлі да лесу й на арэльку,
Каб канец з канцом стачыць.

Хоць пакрыта зямля снегам,
На дварэ хоць халадно,
У воду ўлазілі з адбегам,
Як не хопіт шрык за дно.

Убівалі ў бераг леску,
У Тыкацін задам ішлі,
І у пушчу Белавежску
На плячах клумок няслі.

Вытапталі ўсе дарогі,
Па далінах й па гарах,
Шматпакутніцкія ногі
У гумовых пасталах.

## Валасы

Многа лет ужо я маю,
А здаецца малады.
Маладым не патураю —
Не нашу я барады.

Вусы часта падбрываю,
Падстрыгаю валасы,
Каўтуноў доўгіх не маю,
Каўтуны не для красы.

Для выгады й для парадку
Касцюм, туфлі і часы,
А калі ашчэ краватку —
Яна будзе для красы.



*Фота Я. Цялушэцкага.*

Пра Фёдара Хлябіча з Рыбакоў мы дагэтуль нічога не ведалі, хоць і аціраліся побач. І калі яго вершы трапілі ў рэдакцыю, за пачуццём радасці, што аб'явіўся новы талент, прыйшло і засмучэнне: чаму так позна? У гэтым дзядзька Фёдар не вінаваты. Ён па натуры надзвычай скромны і добры чалавек. Яго вершы — біяграфія роднай вёскі. І піша ён яе не дзеля славы, а так сабе. Піша з апаскай, не кожны, з каго бярэ партрэт, будзе майстрам задаволены. Некаторыя могуць пагневацца. Таму не многім выяўляе свае палотны. І каб чулая на прыгажосць душа з Міхалова не ўгаварыла дзядзьку Фёдара выслаць гэтыя вершы ў „Ніву“, відаць, мы іх не ўбачылі б. Вось і тэма для разважанняў у перадз'ездаўскі „банк думак“. Адступаю яе нашым актывістам.

Вершы Фёдара Хлябіча дыхаюць нескажоным літаратурнымі смогамі паветрам, яны ўвабралі ў сябе прыродную чысціню паўнаводнай Нарвы, узгадаваны пад асвяжаючай зелянінай яе берагоў. Не заўсёды гэтыя берагі былі ласкавыя. Паэт нарадзіўся ў 1911 годзе. Ужо чатырохгадовым хлапчуком скаштаваў горкі бежанскі хлеб над берагамі Волгі. І мілейшай вёскі, як Рыбакі, не ўбачыў нідзе. Вярнуўся на родны бераг, хоць той не абяцаў раскошаў. Чатыры класы пачатковай школы, што прысела на гары, не адкрывалі дарогі ў свет. На гэтых класах і канчалася адукацыя рыбакоўскіх падросткаў. Больш класаў у вёсцы не было. Па вады ў далёкія мясціны ніхто дзяцей не высылаў, бо людзей прыціскала бяда і яны стапталі гумовымі пасталамі берагі Нарвы ў пошуках якога-колечы заробку. І рака не дала ім памерці. Яна выкарміла і вершы паэта. Ад таго яны такія крынічныя і мудрыя.

Фёдар Хлябіч дазволіў надрукаваць гэтыя вершы з агаворкай: „калі яны маюць сэнс“. Ён таксама не ўпэўнены, ці яго вершы, так моцна звязаныя з Рыбакамі, выклічуць зацікаўленне ў іншых вёсках. Мы пераконвалі: напэўна (у гэтым ваша сіла!). Ці перакаталі — не ведаем. Зноў свярбіць язык, каб упікнуць нашых актывістаў (адгукніцеся, маўляў), але ведаючы іх „актыўнасць“ у водгуках, лепш змоўчым і будзем спадзявацца, што дзядзьку Фёдара і так удалося нам пераканаць у вялікім „сэнсе“ яго вершаў.

**Г. В.**

# „А йшлі, прайшлі валачобнікі...“



Так... Прайшлі і адыйшлі разам з мінулай тысячагадовай эпохай сельскай натуральнай гаспадаркі з валамі і сахою, сярпом і цэпам, верацяном і кроснамі. Але іх сляды — квяцістыя і пералівучатыя — па сённяшні дзень засталіся ва ўспамінах старэйшых жыхароў Беласточчыны, асабліва ў мясцовасцях паміж рэкамі Бебжай і Нарвай. Даволі трапіць на вясковую вуліцу ў ваколіцах Новага Двара, Сухаволі, Саколкі, Суража, Беластока, Гарадка, Заблудава ці Нараўкі, падысці да сівенькага дзядулі, што прысеў на коўбычку каля хаты і падставіў твар пад праменні ласкавага веснавога сонейка, ды запытаць: „Ці вы калісьці валокалі?“, а ён гляне на вас і ў яго вачах зацепляцца іскрынкі любых успамінаў з адлеглай маладосці: „А як жа ж, — скажа. — На кожны Вялікдзень, з году ў год, аж пакуль ажаніўся! Бывала...“

І паплыве нетаропкае красачнае апавяданне-згадка пра колішніх валачобнікаў, сярод якіх не апошняе месца займаў і наш расказчык. Вось бачым мы яго ў грамадцы разадзетых па-святочнаму вясковых хлопцаў — „кавалераў“. Яны падзяліліся ролямі: найбольш галасісты — гэта запявала, далей — скрыпач або гарманіст, затым — дужы дзяціна з торбаю на пачастункі, ну і рэшта — харысты. Выйшлі на вуліцу. Для пробы музыка расцягнуў мех гармоніі і звітна праехаўся пальцамі па ладах, заліўся звонкім голасам запявала, а за ім заспяшаліся харысты. Вычышчаная, вымеценая і выбеленая святочная вёска, здаецца, аж усміхнулася ім бляскам сваіх маленькіх шыбін.

У хатах скрыпнулі дзверы і цікаўныя вочы, ідучы за вясёлай грамадой, губляюцца ў здагадках: „Ад каго ж пачнуць сёлета валачобнікі?“ Але яны не адступаюць ад заведзенага парадку: пачынаюць з крайняй хаты, бо хоць там гаспадар і беднаваты, затое Марысядачка ў яго, бы ружа. Расхіліліся веснічкі, цяўкнуў Жулік і схаваўся за свіронкам, а ўжо пад акном пераліваецца голас запявалы: „Гэй, дзень добры, паненэчка!“, харысты ж басуюць: „Гэй, віно, віно зелено!“ і паплыла песня аб красе дзяўчыны ды з пажаданнямі ёй хуткага выхаду замуж за любага. Але валачобнічкі не забываюць і пра сябе, гаворачы ў канцы песні пра багаты пачастунак „белым сырам абложаны“, „кілбасою акружаны“ ды „бутылкаю завершаны“. Распраменёная дзяўчына выходзіць з поўнаю талеркаю ў руцэ, а тыя, глянуўшы на нескупы дар, зараз жа сплятаюць з рук „столачак“, садовяць на яго дзяўчыну ды гушкаюць аж пад глыбокі блакіт вясенняга неба. Звоніць радасны дзявочы смех, цешацца, стоячы каля акна, маці з бацькам, што іх дачку хлопцы паважаюць. А калі гушканні закончаны і дар схаваны ў бяздоннай торбе, вясёлая грамадка ўжо пад акном у суседа.

Тут дзяўчаткі яшчэ малыя, таму валачобнікі пяюць пра паву, што „ходзіць па гуланьцы“ ды „роніць пер'е па мураўцы“, але гаспадыня тут дбайная, бо пер'е „збірае“ і „ў хусту складае“ ў пасаг сваім дочкам, а ўжо „тры малойцы-рыбалоўцы“ уюць ім „венец“ і, як глянь, „ідуць у танец“. І цяжка гаспадыні адмовіць пачастунку за такія пажаданні.

Пад вокнамі трэцяй хаты ў песні гаворыцца пра багатага гаспадара, у якога вакол двара „тын тыновы“, „сад вішнёвы“, „вароцечкі букавыя“, „замочкі ўнутраныя“, „а ключыкі залатыя“. Усялякага дабра ў яго гара-гарою і жыве ён шчасліва. Нічога, што напрадвесні ў гэтай хаце, як у большасці сялян, няма чаго і на зуб пакласці, але ў песні-казцы ўсё магчыма.

І ўсё ж цэнтральным героем валачобных песень з'яўляецца „красная паненка — вясна“. Гэта яна чарадзейнымі ключамі адамкнула зямлю і ваду, абудзіла да жыцця прыроду, дала надзею на новы ўраджай. І якраз услаўленне працы на гаспадарцы — гэта асноўны іх

(Працяг на стар. 4)



*Міхал Байко сярод экспанатаў.*

# Зберагчы для нашчадкаў

Мяняюцца часы, багацеюць вёскі. Тэлевізары, халадзільнікі, пральныя машыны — усё гэта і многа чаго іншага можам знайсці сёння амаль у кожнай нашай хаце. Дзе ж там цяпер месца ўсялякім калаўротам, жорнам, прасам на вугаль. Ляцяць яны ў розныя закамаркі свіронкаў, павецяў, а ды яшчэ горш, проста на пункт збору злому ці ў печ. Як жа незаслужана!

Многа такіх прадметаў выратаваў перад знішчэннем інж. Міхал Байко з Белавежы, які стварыў у сваім доме амаль сапраўдны этнаграфічны музей. Ён з захапленнем збірае ў ваколіцы ўсе непатрэбныя ўжо ў гаспадарцы рэчы, чысціць іх і памяшчае на адпаведным месцы ў пакоі, у якім ужо робіцца цеснавата. Нічога дзіўнага, бо пакой маленькі, а экспанатаў назбіралася да гэтага часу звыш 60 штук. Ёсць тут і камплектныя жорны, зробленыя незадоўга перад пачаткам I сусветнай вайны, і медзяное карыта з 1849 г. з аснашчэння белавежскага царскага палаца. Цікава выглядае аздоблены куфар з 1890 г., з якім ішоў калісьці кожны мужык на 25-гадовую службу ў царскай арміі. Сярод экспанатаў, якія паходзяць з перыяду да 1915 г., варта назваць тапор для склюдавання бярвенняў, драўляны прыбор для распальвання агню, перароблены на ручны дрыль, калаўрот, кадлубкі, капанькі. З перыяду паміж войнамі паходзяць 4 прасы на вугаль, лапці, зробленыя з пакрышак, драўляныя канькі з металічнай акоўкай, латуневая ступка для сцірання перцу, 2 газавыя лямпы (адна польская, другая руская), прасніца, бамбукавая этажэрка і інш.

Летам М. Байко думае павялічыць свой збор на кросны, якія паабяцала яму ўжо Юсціна Бушко, дзве бараны (адна з драўлянымі зубамі) ад Юрыя Валкавыцкага, сяброўка ж прывязе беларускую вышываную мужыцкую кашулю. Шэраг прадметаў даставілі яму дагэтуль Вольга Мілько, Мікалай Бушко і памершая ўжо Варвара Байко.

Апрача даўнейшых рэчаў хатняга ўжытку М. Байко збірае таксама старыя кніжкі і карты. Самымі каштоўнымі ў калекцыі з'яўляюцца старацаркоўны псалтыр з 1904 г., царская кулінарная кніга з 1900 г., карта генеральнага штаба, прадстаўляючая еўрапейскую частку Расіі з 1915 г., і руская карта Белавежскай пушчы з 1907 г. Вялікую вартасць прадстаўляе сабой кніжка Баранава „Падручнік для фельчараў", якая мае зроблены ўручную надпіс, растлумачваючы, што кніжка належыць кіраўніку лазарэта штабс-капітану Якаву Вашкевічу. На жаль, некалькі вырваных старонак перашкаджае вызначыць, у якім годзе яна выдана, хаця, мяркуючы па правапісу і зместу, было гэта не пазней 1900 г.

Міхал Байко з'яўляецца настаўнікам у Механічным тэхнікуме ў Гайнаўцы. Ён выпускнік ВСІ ў Беластоку (1974 г.). Цяпер яму 27 гадоў. Захапленне матэрыяльнай і духоўнай беларускай культурай паявілася ў яго ўжо ў дзяцінстве, калі слухаў апавяданні бацькоў і старэйшых жыхароў аб мінулым сваёй ваколіцы. Дзякуючы такім людзям, як інж. Міхал Байко, можам верыць, што гісторыя нашай нацыянальнай культуры праіснуе стагоддзі.

Калі будзеце выкідаць нейкі стары і непатрэбны прадмет, падумайце аб белавежскім калекцыянеры.

Тэкст і фота
**Пятра Байко**



*Фрагмент калекцыі.*

## ФАЛЬКЛОР

**ВЯСЕЛЬНАЯ**




*Розвіваецьсе, розвіваецьсе мята-рута і зіеле,*
*зачынаецьсе, зачынаецьсе ў Гандюлі вэсіеле.*
*Вышла Гануля за вороточка, той россыпала дрова,*
*ой, мінаецьсе, ой, мінаецьсе вся дівоцька розмова.*
*Вышла Гануля за вороточка, той россыпала карты,*
*ой, мінаюцьсе, ой, мінулісе все дівоцькіе жарты,*
*ой, мінаюцьсе, ой мінулісе все дівоцькіе жарты.*

Ад Веры Іванюк, 1910 г. нараджэння, Надзеі Федарук, 1911 г. нараджэння, і Ніны Васілюк, 1934 г. нараджэння, вёска Плёскі гм. Храбалы, запісаў 5 лістапада 1975 г. М. Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.




### Я БЫЎ У ГРУЗІІ Ў ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШЫМ

Ваша газета мяне вельмі цікавіць, і я яе часта чытаю, хаця не выпісваю. Я ж жыву аж у трох кіламетрах ад пошты і не хачу затрудняць лістаноша — яму ж і так работы хапае. Проста ў кожную пятніцу я даю сваім унукам грошы, а яны ж ходзяць у школу і там, у кіёску, купляюць мне „Ніву".

І вось у газеце ад 28 сакавіка гэтага года я прачытаў артыкул „Подых Грузіі", прысвечаны 55-ай гадавіне ўстанаўлення савецкай улады ў Грузіі. Яшчэ ў ім гаварылася, што мала каму з польскіх грамадзян знаёма гэта далёкая краіна. Праўда гэта.

Напэўна сёння турысту з вакна легкавой машыны прыемна паглядзець на тыя дрымучыя лясы, што растуць на схілах Каўказкіх гор; на высокія сівыя скалы і вяршыні гор, пакрытыя вечнымі снягамі, што паднімаюцца вышэй воблакаў; паглядзець на горныя патокі, якія бяруць пачатак на вяршынях снежных гор і нясуць з грукатам вялікія кавалкі чорных скал; убачыць горныя каўказскія рэкі Рыон, Куру, Церак — там вада мутная і не такая спакойная, як у нашых рэках, яна шуміць, і бурліць, і зверху пакрыта белай пенай; цікава паглядзець і на велізарныя сады на схілах гор, абсаджаныя вечназялёным дрэвам кіпарысам, якое вакол сада стварае высокую і шчыльную сцяну, абараняючую ад вятроў сад, дзе растуць, спеюць яблыкі, вішні, слівы, персікі, абрыкосы, інжыр, вінаград і многія фрукты, назву якіх я нават не ведаю; а сустракаюцца ж і вялікія табачныя плантацыі, дзе вырошчваюцца лепшыя сарты табака, і чайныя плантацыі, асабліва ў заходняй частцы Грузіі, на ўзбярэжжы Чорнага мора.

Я па Грузіі як турыст не ездзіў, а прайшоў па ўсёй краіне са зброяй у руках. Пачынаючы ад горада Адлера, ішлі мы ў 1921 г. на вызваленне Грузіі ад англа-французскіх акупантаў.

Не памятаю добра, на другі ці на трэці дзень, але лінія абароны была намі прарвана. Захапілі мы шмат палонных і боепрыпасаў. Занялі населены пункт на тэрыторыі Грузіі, які называўся тады Пілінка. Далей вайна нам слала шлях уздоўж узбярэжжа Чорнага мора праз Гагры, Гудаут, Новы Афон (там наша брыгада панесла вялікія страты), Сухумі, Зугдзідзі, Ачэмчыры, Поці, Батумі і так дайшлі да ракі Чорах. Далей пачыналася Турцыя.

У тых месцах, дзе мы праходзілі, на самым беразе Чорнага мора, была пракладзена шаша з Наварасійска ў Батумі, але гэта дарога дзень і ноч была пад абстрэлам з мора, асвятлялася пражэктарамі, і, калі быў заўважаны найменшы рух ці хоць адна фурманка, французы снарадаў не шкадавалі.

Таму трэба было ісці па непраходных лясах, высокіх гарах і снежных перавалах. Я быў сувязістам. Даводзілася несці на плячах усю тэлефонную маёмасць: вярстовыя катушкі тэлефоннага кабеля ці тэлефонны апарат, а яшчэ ж і руская трохлінейная вінтоўка са штыком, патроны, лапатка, рэчмяшок, кацялок...

У той час ішлі пралiўныя дажджы. А там жа дождж не ідзе, як у нас — кроплямі, а лье, як з вядра. Увесь час мокрыя, прадзіраліся мы праз непраходныя лясы, нейкія калючыя кустарнікі накшталт нашай лазы (мы іх называлі „держы-дерево"), пераходзячы праз патокі па пояс у халоднай вадзе, мы ўпіраліся ў дно штыкамі, каб не сарвала нас бурнае цячэнне ракі, ішлі па пакрытых снегам чорных перавалах і глыбокіх цяснінах, у якія ніколі не прасвечвалася сонца. Спалі там, дзе застала ноч, на сырой зямлі. Не было гарачай стравы, бо палявыя кухні ад нас адсталі. Замест хлеба нам давалі стакан кукурузнай мукі ў суткі, і з гэтай мукі, змешанай з вадою, мы варылі ў часе начных прывалаў „мамалыгу". Разводзілі кастры, і кожны варыў сабе сам у сваім кацялку. Давалі нам муку раз у 3-4 дні, і некаторыя салдаты не вытрымлівалі і з'ядалі ўсё адразу. Каша без тлушчу часта прыгарала і ўся праходзіла дымам. Ад слабага харчавання мы пачалі хварэць на курыную слепату (пасля захаду сонца ўжо нічога не бачылі), цынгу, дэзінтэрыю і на каўказскую хваробу малярыю.

К канцу пахода мы былі ўжо так змучаныя і абдзертыя, што не былі падобны на салдат, толькі чырвоныя зоркі ярка гарэлі на нашых пілотках.

Назад ехалі таварнымі вагонамі. Селі ў горадзе Кутаісі. Прыехалі ў Краснадар у канцы мая. Атрымалі новае абмундзіраванне і пайшлі зноў на белагвардзейцаў.

Вось такім было маё знаёмства з Грузіяй.

**Ціхан Трахімюк**
Кленікі




*На крадзеным не разжывешся. Адзін сакольскі рабочы — будаўнік ездзіць на працу аўтобусам (маршрут: Саколка—Бабікі—Слойка). Нядаўна вёз ён пад палою бляшанку белай эмалі. А тая ўзяла і адчынілася. Эмалія расплылася па адзенні, забрудзіўся аўтобус. Наш „будаўнік" пачаў яе выціраць. Упэцкаўся (ні анёл, ні чорт!). На другі дзень ехаў у іншай вопратцы. Тую, што забрудзіў, выкінуў.*
*Вось табе і разжыўся!*

*Ніяк*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Крамы ў вёсцы Чыжы

У Чыжах дзве спажывецкія крамы, у якіх купляюць сяляне сваёй і суседніх вёсак. Найбольш людзей заходзіць у спажывецкі кіёск, асабліва ў дні скупкі, гэта значыць у панядзелкі і пятніцы. У тыя дні з'язджаецца ў Чыжы вельмі многа людзей па розных справах. А ў кіёску можна купіць дзе-што з'есці, ды і піўцо выпіць.

Трэба таксама сказаць, што і ў другой вялікай краме нямала людзей. Прадаўшчыцай тут А. Мазаноўская — вельмі добры працаўнік. Яна стараецца, каб людзі былі задаволены яе працай, заўсёды ветлівая, прылюдная.

**В. Л.**

## Купаюцца ў балоце

Улады горада Бельска зрабілі месца на стаянку таксі каля чыгуначнага вакзала. Усё для пасажыраў! Але вось што: плошча, на якой знаходзіцца стаянка — гэта „балотнае возера". Не хлусу — глыбіня гэтага „возера" каля 40-50 см. Людзі не могуць дайсці да машын, шафёры запэцканы граззю, машыны забалочаны, таму што няма іх дзе і памыць.

Неабходна як мага хутчэй зрабіць стаянку як належыцца — выжвіраваць і палажыць бетонныя пліты. Няўжо далей будуць купацца бельскія таксі і пасажыры ў балоце?!

**Іван Кірызюк**

## Паскудны ўчынак

У Орлі ў адной з крамаў, дзе прадаюць хлеб, гарэлку і мясныя вырабы, стаяць дзве прадаўшчыцы. Ды яны стаяць на змену — некалькі гадзін адна, некалькі — другая. І вось аднойчы заходжу я ў гэтую краму купіць паўкілаграма каўбасы. У гэты час стаяла там прадаўшчыца Жэня Сахарэвіч. Я яе прашу, каб адважыла мне паўкілаграма каўбасы. Ды яна не звяртае ўвагі на маю просьбу, а каля прылаўка ў гэты час нікога ў гэтым месцы не было. Толькі адна жанчына папрасіла хлеба, прадаўшчыца ёй дала, а я, стоячы тут жа, прашу зноў, каб прадала мне каўбасу. Ды яна ізноў „не чуе". У другім месцы сталі людзі за рыбай, дык яна пайшла туды, адважыла ім рыбу. Але прыходзіць і іншыя людзі за каўбасой і яна ім важыць, а я прашу ўсё, а яна ўсё не звяртае на маю просьбу ніякай увагі. І так я прасіў яе цэлых паўгадзіны — разоў сем, ды яна мне так і не прадала гэтай каўбасы і я з нічым пайшоў сабе.

А мне ж 78 год, прайшоў чатыры гады грамадзянскай вайны, не маю здароўя.

Ці такія прадаўшчыцы павінны быць прадаўшчыцамі? То ж пішаце і вы часта, што прадаўшчыца павінна быць уважлівай да людзей, ветлівай, мець сумленне і добра ведаць свае абавязкі.

З паважаннем

**Аляксандр Кубаеўскі**
Орля

---

мост і здаўся партызанам, калі супроць узвода дзейнічаў цэлы полк.

На прывале Ануфрый Драпеза коратка падвёў вынікі аперацыі, потым уважлівым позіркам абвёў сваіх байцоў:

— Таварышы! Ваня (на той час у Арлоўскага была клічка — Ваня) — вопытны падрыўнік, храбры партызан, добры арганізатар. Вось чаму я здымаю з сябе абавязкі камандзіра атрада і прапаную камандзірам абраць таварыша Ваню.

Партызаны добра ведалі і любілі свайго земляка Драпезу. Доўгі час партызанілі пад яго камандай, прывыклі да яго. Не адзін раз хадзілі ў засады, нападалі на ворага і заўсёды, дзякуючы яго разважлівасці і вопыту, выходзілі пераможцамі. За адвагу і смеласць падабаўся ім і Ваня. Што ж тут рабіць?

— Дазвольце, таварыш камандзір, — устаючы, сказаў Арлоўскі.

— Табе дамо слова пазней, — спыніў яго Драпеза. — Мне спачатку з хлопцамі трэба пагаварыць. — Драпеза змоўк, маўчалі і байцы. — Таварышы, я не збіраюся разводзіць дэбаты. Скажу коратка: таварыш Ваня ў грамаце мацнейшы за мяне і вопыт большы мае. Яму і камандзірам быць. Згодны?

— Згодны! — дружна адказалі байцы.

Так Арлоўскі ўзначаліў атрад. Па яго прапанове намеснікам камандзіра атрада быў абраны Ануфрый Драпеза.

*(Працяг будзе)*

## Веснавы пасеў угнаенняў

Ранняй вясной не так многа работы, і гэта яшчэ адзін плюс на тое, каб у гэты час высеяць мінеральныя ўгнаенні. Вось і ў Галадах некаторыя так зрабілі. Люба было глядзець, як некалькі трактараў СКР-у з раскідальнікамі за кароткі час высеялі мінеральныя ўгнаенні на палях. Яшчэ лепш робяць гэта ПГР-ы. Тут высяваюцца ўгнаенні самалётам. Гэтак робіцца ў бельскім ПГР-ы. У мінулым годзе на гэтым жа полі ад Бельска да Галадоў той самы самалёт расяваў мінеральныя ўгнаенні. Вырасла кукуруза, як лес! Частка яе, аднак, змарнавалася ўвосень, бо не паспелі скасіць, але гэта ўжо іншая справа. Спадзяемся, што гэта не паўторыцца сёлета.

**Валянцін Анапюк**

## У Сацах няма парадку

У вёсцы Сацы, Нараўскай гміны, быў дом дзяржаўнага фонду. Жыхары вёскі называлі яго святліцай. Там таксама ляжалі супрацьпажарныя прылады, а зверху была пажарная сірэна.

Частку таго дома займала жанчына са сваім сынам, бо і дом гэты быў часткова яе ўласнасцю. Сын падрос, і жанчына звярнулася да дзяржаўных улад з просьбай, каб дазволілі купіць ёй увесь дом. Дзяржаўныя ўлады, бачачы беднае жыццё жанчыны, злітаваліся і прадалі дом.

Супрацьпажарная каманда з Сацоў забрала свае прылады і перанесла ў другі будынак. Таксама былі вымушаны зняць з даху сірэну. Год таму назад знялі сірэну і перанеслі да сваіх прыладаў. Там сірэна пачала адпачываць, лежачы ў кутку, бо не было каму яе ўмантаваць.

Восенню мінулага года, калі ўзнік пажар у Сацах, пажарнікі вынеслі сірэну і абы-як падключылі да хаты Паўла Петручука, так і стаіць яна там па сённяшні дзень. Няма каму яе падключыць да будынка, дзе ляжаць пажарныя прылады. Хто, праязджаючы праз вёску Сацы, не ведае гэтай сітуацыі, дык каля хаты Паўла Петручука знімае шапку і хрысціцца, бо думае, што гэта царкоўная харугва.

Хто гэтым усім павінен заняцца, не ведаю, ці раённая пажарная каманда ў Гайнаўцы, ці праўленне гміны ў Нарве?

**М. Лук'янюк**

## Прапаў малочны бар

У Саколцы доўгі час не было малочнага бару. Людзі дапаміналіся, нават і „Ніва" пісала аб гэтым. І адкрылі такі бар у Саколцы. Як добра было людзям зайсці сюды паснедаць ці паабедаць. А вось ад восені гэты малочны бар зноў ліквідавалі, а на тым месцы зрабілі краму тавараў, якія прадаюцца толькі за долары і за боны. Цяпер, калі захочаш паснедаць ці паабедаць, то трэба ісці ў рэстаран. Але на гэта не ўсім дазваляе кішэнь. Малочны бар у Саколцы вельмі патрэбны!

**Віт**

## Ці кузаўцы не заслужылі?..

Аб кузаўскай вуліцы я пісаў на старонках „Нівы" паўтара года таму назад. Зараз вяртаюся ад тых спраў таму, што за гэты час нічога не змянілася, хоць начальнік Чаромхаўскай гміны абяцаў вырашыць праблему ў 1975 годзе. Год мінуў, а кузаўцы далей жывуць абяцанкамі, што гмінная ўправа злітуецца і нешта ім паможа.

А вуліца псуецца ўсё больш. Цяпер, пасля дажджу немагчыма ёю прайсці. Ёсць і адрэзкі, што ў чорнай мазі можна боты згубіць. Няўжо кузаўцы не заслужылі, каб мясцовыя ўлады памаглі адрамантаваць ім дарогу ў вёсцы?

Хачу дадаць, што гмінная ўправа ў Чаромсе прызначае фонд іншым вёскам на будову і рамонт даяздных дарог, а Кузава з дзяржаўнага бюджэту не атрымала ані залатоўкі для той мэты. Крыўдзяцца людзі, што аб іх забываюцца. Магчыма, і зараз вярнулася б да кузаўцаў ідэя грамадскага чыну, як гэта калісьці бывала. Аднак пры такіх умовах і адносінах паміж насельніцтвам вёскі і гміннымі ўладамі цяжка гаварыць аб карысным вырашэнні справы. Мо, аднак, начальнік гміны ў Чаромсе знойдзе супольную мову з кузаўцамі і справа вырашыцца к супольнаму задавальненню?

**(ус)**

## Бар у Шудзялаве

Уваходзячы ў шудзялаўскі бар, адразу не цяжка заўважыць, што тут парадак. А, вядома кожнаму, як нялёгка ўтрымаць яго ў такім месцы. Бо з людзьмі, як з людзьмі, калі каму трошкі ў галаве зашуміць, дык ужо і бяда. І асабліва за гэты парадак у бары пахваліць трэба буфетчыцу Зофію Рэдух, якая вельмі добра і заўсёды з усмешкай на твары выконвае сваю працу. Яшчэ сказаць хочацца, што цёплыя стравы асабліва тут смачныя і заўсёды гатовы на час. Добрыя людзі хваляць абслугу, парадак у шудзялаўскім бары не падабаецца толькі тым, якім хацелася б больш выпіць.

**Я. Бандарук**

## Адказ на заклік ФАН

ГС у Нараўцы прыняў заданні на 50 тысяч злотых. Найбольш цікавымі чынамі з'яўляюцца: устанаўленне столікаў пры кіёску з марожаным, пасадка ружаў навокал вытворчага пункту газіраванай вады, правядзенне парадку на двух базах спулдзельні, пабудова фундаменту пад кіёск.

А гмінная школа ў Нараўцы са свайго боку рашыла выканаць наступныя чыны ў час вясны: навесці парадак на мясцовым стадыёне, пасадзіць дрэўцы пры дарозе даўжынёй 5 км, зрабіць некалькі школьных дапаможнікаў. Кошт чынавых прац школы складзе 25 тыс. зл.

Усе чыны будуць адбывацца пры ўдзеле ўсіх працаўнікоў ГС і вучняў школы. Большасць прац выканаецца да 1 мая.

**Аляксандр Закройшчык**

## У школьнай бібліятэцы

Школьная бібліятэка ў групе сельскагаспадарчых школ у Бельску налічвае каля 11 тысяч тамоў. З гэтых кніжак карыстаецца моладзь і працаўнікі школы. Кожны дзень пазычаюць у сярэднім 48 кніжак. Сярод вучняў найбольш чытачоў у трэцім класе Сельскагаспадарчага тэхнікума.

У бібліятэцы знаходзіцца спецыяльная дошка, на якой адзначаюцца новакупленыя кніжкі. Часта бываюць тэматычныя выстаўкі, асабліва ў час майскіх „Дзён асветы, кніжкі і друку".

Апрача кніжак, у бібліятэцы ёсць педагагічныя часопісы, з якіх карыстаюцца ў асноўным настаўнікі. Бібліятэкарам з'яўляецца І. Зінкевіч, а яму ахвотна памагаюць вучаніцы з розных класаў.

**Мікалай Няплоха**

## Перамаглі настаўнікі

У другой палове сакавіка ў спартыўнай зале агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску сустрэліся зборныя валейбольныя мужчынскія каманды настаўнікаў бельскіх школ і бельскай міліцыі. Перамаглі настаўнікі з лікам 3:0.

**Мікалай Няплоха**




**Анна Тышко, Савіны Груд (гміна Гайнаўка).** Вашу справу мы накіравалі да юрыста і ад яго вы атрымаеце адказ.

**Мікалай Кузьміцкі, калонія Геранімова (гміна Міхалова).** Вы перадаеце сваю гаспадарку дзяржаве за пенсію і маеце намер пераехаць у Міхалова. Навошта вам тады электрычнае святло на калоніі Геранімова?

**Вінцук Сарочынскі, Дзернякова (гміна Гарадок).** Кіраўніцтва тэхнічна-гандлёвага сервіса „Агрома" ў Беластоку адказала нам, што яна выслала грошы на ўсе рахункі, якія былі да яе накіраваны загадчыкам сельскагаспадарчай службай у Гарадку. Заплаціла нават у гэтым канкрэтным выпадку за закупленую на сіласы фальгу.

Таму вы звярніцеся ў гэтай справе ў гарадоцкую гмінную ўправу. Калі што не так, напішыце да нас.

**Софія Д. (гміна Гайнаўка).** Інвалідскую пенсію можаце замяніць на звычайную толькі тады, калі вы ўжо ва ўзросце пенсіянера і маеце такую колькасць гадоў працы, якая неабходная для атрымання пенсіі (art. 29 ustawy z dnia 23 stycznia 1968 r. o powszechnym zaopatrzeniu emerytalnym pracowników i ich rodzin — Dz.U. z 1968 r. nr 3, poz. 6 z późniejszymi zmianami).

**(ця)**

## Вятрак Рыгора

У Крывяцічах былі калісьці тры прыгожыя млыны-ветракі: Івана Сачко, Антаніны Рагозы і Рыгора Ролі. Млыны стаялі і нішчэлі. З трох застаўся толькі вятрак Рыгора Ролі. Ён стаіць нявыкарыстаны, і толькі сам Рыгор час ад часу яшчэ і цяпер меле сабе збожжа ў сваім млыне-ветраку. А мо б так зацікавіўся крывяціцкім ветраком ахоўнік помнікаў культуры?

**Іван Кірызюк**

## Хто меў рацыю?

У Гайнаўцы ў гэтым годзе пабудавалі і аддалі ў карыстанне вялікую краму „Дэлікатэсы".

Тут амаль усё можна купіць і так, здаецца, усё было б вельмі добра, каб толькі крыху больш прыемнымі былі прадаўшчыцы. Яны амаль усе ўжо многа часу працуюць, а не ведаюць, як трэба адносіцца да людзей, не ведаюць, што ветлівасць належыць да іх абавязкаў.

Вось мне 20.III.76 г. здарылася тут адна непрыемнасць. Заходжу я ў „Дэлікатэсы" і прашу 10 пачак экспартнага чаю. Прадаўшчыца палічыла і падсунула мне гэты чай. А ў мяне не было ў што гэты чай узяць, апрача кішэні ў паліто. Прашу, каб яна загарнула мне чай у паперу. Яна тады: „Гэта не мой абавязак". А я яе яшчэ раз прашу. Яна пакрунула носам і пайшла далей, а мой чай як ляжаў, так і ляжыць. Гляджу, а мая сяброўка яшчэ з пачатковай школы таксама прадае. Давай я яе прасіць, каб яна мне запакавала гэты чай, але яна мне на гэта, што калі яе сяброўка мне не зрабіла, дык і яна не зробіць (вось дык сяброўка!). Людзей у краме было многа, яны на ўсё гэта здзівіліся таксама, і так я, нарэшце, яшчэ пасля іхняга голасу абурэння, узяла свой тавар, кінуты мне проста, як сабацы.

Дарагая „Ніва", прашу цябе, адкажы, хто меў рацыю — я, ці прадаўшчыца? Мне здаецца, што несці такі чай не ўпакаваны — гэта так, як бы ўзяць кусок мяса і палажыць у кішэню.

**Кліентка гайнаўскай крамы**

**Ад рэд.** Рацыя была твая, але што на такія парадкі кіраўніцтва „Дэлікатэсаў"? Адказу пачакаем.

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ПРА ДУБЯЖЫНСКУЮ СВЯТЛІЦУ

Даўно ўжо была пабудавана дубяжынская святліца, у асноўным грамадскім чынам жыхароў вёскі. Адкрыта была ўрачыста. Але, як гэта часта бывае, любяць у нас нечага не дакончыць. І так было з дубяжынскай святліцай. Наш карэспандэнт у 3 нумары „Нівы" з 18.III. крытыкуе, што ў дубяжынскай святліцы не памалявалі вонкавых сцен. А вось адказ у гэтай справе начальніка Бельскай гміны.

W związku z ukazaniem się artykułu w tygodniku „Niwa" przesłanego w dniu 5.02.76 r. w sprawie nie pomalowanej świetlicy we wsi Dubiażyn, uprzejmie wyjaśniam:

Przedmiotowa świetlica wykonywana była przez Rzemieślniczą Spółdzielnię w Siemiatyczach. Sp-nia, jak również i rzemieślnik, który wykonywał roboty, akazali się niesolidnymi wykonawcami, dowodem czego było ciągłe przedłużanie terminu zakończenia budowy. Po licznych interwencjach postanowiono oddać budynek bez pomalowania ścian zewnętrznych.

W tym czasie mieszkańcy wsi: Pilipki, Parcewo, Proniewicze, Nałogi, Pasynki i Widowo, chcąc podnieść kulturę w swoich miejscowościach, złożyli wnioski o przydzielenie budynków z rozbiórki, z przeznaczeniem na świetlice wiejskie. Pomimo wielkich przeszkód i trudności budynki otrzymały wsie: Proniewicze, Pilipki, Nałogi i Parcewo. W związku z tym, że otrzymane budynki pochodziły z rozbiórki, a jednocześnie był podany termin rozbiórki należało szybko rozebrać i przewieźć wspomniane budynki na przeznaczone miejsce. Po przywiezieniu, chcąc uniknąć niszczenia materiałów, należało jak najszybciej rozebrane budynki postawić w stanie surowym. Przedsięwzięcie to pociągnęło za sobą nieprzewidziane koszta.

Remont świetlicy we wsi Dubiażyn został zaplanowany na bieżącą pięciolatkę.

**Naczelnik gminy**
**mgr inż. Jerzy Kalina**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

